## Леанід Галубовіч



# Заложнік цемры

Вершы

Мінск
«Мастацкая літаратура»
1994

*Светлай памяці бацькі*
**ГАЛУБОВІЧА**
**МІХАІЛА ФІЛАРЭТАВІЧА**
*прысвячае аўтар*
*гэтую кніжку*

## ПАЭТЫЧНЫ АЎТАШАРЖ

Чытач,
ТЫ
У
ВЕКА
ВЕЧАНЫ

Мной ва ўсёй савецкай фактуры.
Я — апошні паэт заВЕРШАНЫ
З тых,
хто
жыў
пры
тваёй
дыктатуры...

## АДЗІНОТА

Жыву не без добрых надзей.
Вунь стукае ў шыбу сінічка...
Пусціў бы яе, дабрадзей, —
Ды знікла, як знічка...

А ўрэшце, прыемна адчуць,
Што нехта ўсё ж мае патрэбу
Пабыць у цябе прад ваччу, —
І дзякаваць Хлебу,

І Богу,
бо ў высях зямных
Стварыў Ён жывыя істоты,
Што нас не пакінуць адных
Пад час адзіноты...



Два гады не складаў вершаў...
Тры гады не пісаў вершаў...
І,магчыма, ніколі іх не ствараў...

Якая свабода не дбаць пра вершы!

І вось бязмежна аддаўся няволі...

Сёння ўвечары
Сяджу за сталом
І падбіраю словы
Для вызначэння лёсу
Наступнага дня...

А трохгадовая дачка ўтрапёна
Цярэбіць мяне за крысо кашулі:
«Тата, навучы пісаць і мяне...»

О, міласэрны Божа!
Няўжо ніколі
Так і не скончым пісаць... вершы?

## ФАНТАСМАГОРЫЯ

Палю купонныя цыгаркі.
Гляджу ў стэрыльнае вакно
На сонны горад пралетарскі
І п'ю чырвонае віно...

Ды не, не п'ю, чытач... А ўрэшце,
Калі б і піў, то што з таго?
Мне проста хочацца — хоць рэжце —
Радкі хмяліць да аднаго.

Не то што я па чым сумую,
Не то што прагну куражу,
А зберагчы хачу жывую,
Пакуль са мной яна, душу.

Не тую, што сацыялізмам
Прапахла ў чэргах баявых,
Што на цябе глядзіць, як сызма,
З усіх сваіх перадавых,

А тую, што ў класічнай клетцы
Палоннай птушкаю пяе,
Якую свет славіў у Клецку,
А сёння ў Мінску прадае.

Таму палю не без прычыны.
Гляджу ўстрывожана ў вакно
На сонны горад і вачыма
Я п'ю прапітае даўно.

## СВЯДОМАСЦЬ

Калі ад жыцця халадзее кроў,
То смерць ужо — проста фармальнасць.

Што ж, кожны касец быў
Крывёю травы апырсканы...
І лесапільшчык да скону помніць,
Як падаюць дрэвы ніц,
З крыкам зямлю абдымаючы...

Урэшце, кожны з нас на Зямлі —
Забойца,
Пакуль не стане ахвярай.

А я — САМАГУБЦА,
І гэтым сказана ўсё.
Жыву і пра смерць сваю думаю...
І ўсё адкладваю і адцягваю час...

Упэўнена сябе пачуваеш,
Ведаючы,
Што памрэш — калі пажадаеш.

## БЕЗВЫХОДНАСЦЬ

Я не ведаю, як мне жыць,
І якой дамагацца мэты,
І якому д'яблу служыць,
І чые зберагаць партрэты?

А наогул, ці можна жыць,
Дамагацца якойсьці мэты,
Калі мусіш д'яблам служыць,
Зберагаючы іх партрэты?

Што ж,
тады — галаву ў пятлю...
Ды скрозь немач пятлю аслаблю —
Жыць хачу,
таму што люблю
Гэты свет,
што скарыўся д'яблу.

◆ ◆ ◆

Вечарэе...
Канчаецца ЧАС.
Абрываецца голас
Часовых прапаведнікаў жыцця...
Тухне святло ў маіх
Чатырох сценах сэрца.
Спрабую заснуць
На мулкім ложку нявольніка.
Чуйна вартуе маё сумленне
Мой розум.
Не адпускае грахоў душы
Мая памяць.

...Толькі ў снах жыву...

Хутка ўжо абвесціць пабудку
Сонца — будзільнік майго існавання.
І выйдзем мы зноў
На ранішнюю паверку
Усе, хто спяць
На мулкіх ложках
Нявольнікаў часу.

Ніхто не ведае, колькі нас,
І кожны ведае, што ён ёсць.

## ЗАЛОЖНІК ЦЕМРЫ

Пра што я думаю,
                    калі
Змрок вечаровы засціць вочы
І ўсё жывое на Зямлі
Маўчыць заложнікам у ночы?

І толькі бляск былога дня
У прыску памяці свіціцца,
І прыпадае цішыня
Да вуснаў
            немасці напіцца...

І цемраддзю з усіх бакоў,
Нібы святляк акальцаваны,
Я на памежжы двух вякоў
Ці — сном,
            ці вечнасцю забраны...

...Пра што я думаю,
                    калі,
Свае наўсцяж адкрыўшы вочы,
Сябе не бачу на Зямлі
Пад Сонцам пасля гэтай Ночы?..



Усхвалявана-разгублены,
Месячнай ноччу
Іду дарогаю паўз касцёл...
Трупянею! —
Згледзеўшы свой раскрыжаваны цень...

## ЭЛЕГІЧНЫ РОЗДУМ

...Я жыву выпадкова на гэтай зямлі...
Нарадзіўся ў аўсах сярод пожні калючай —
На зямлістыя рукі крык мой, лона ўзялі,
Сцёршы матчыну кроў палатнянай анучай...

Для жыцця мне хапае самога сябе.
Я за ласкай людской не атоптваў парогі:
Пра жніво, як заўжды, разважаў на сяўбе,
Пра зыход свой гадаў на пачатку дарогі...

Дастаткова ўдыхнуць жорсткі вецер жыцця
І нутром зразумець тут сваю выпадковасць,
Каб ужо не баяцца мяжы небыцця
І пад небам свой дух найвышэй уладкоўваць...

◆ ◆ ◆

Троє калек
Жывуць у нашым пад'ездзе:
Адзін — бязногі,
Другі — сляпы,
А я — трэці —
Не дам рады працягнуць ім руку...

◆ ◆ ◆

Я мог бы плакаць вечарамі,
Што я марную дзень за днём...
Бо хутка ўжо ля Боскай Брамы
Мне біць павіннную чалом.
Ды вечарамі я не плачу,
А скрушна думаю аб тым:
Няўжо я ўсё-ткі нешта значу,
І буду з'яўлены прад Ім?
Няхай апошнім грэшным гнюсам,
Няхай для пекла і пакут —
І ўсё ж прад Ім Самім з'яўлюся,
І скажа Ён, хто быў я тут?!

◆ ◆ ◆

Размотваецца клубок майго жыцця:
Ноч — за днём,
Тыдзень — за бядой,
Месяц — за ўдачай,
Год — за нягодамі...

Магчыма, нехта некалі
Натрапіць на ніць майго лёсу,
Каб зматаць яе ў клубок ад пачатку:
Ноч — за днём,
Тыдзень — за бядой,
Месяц — за ўдачай,
Год — за нягодамі...
З той ніці і саткуць мне
Пасмяротную кашулю памяці.



Калі з душы спадае быту млосць,
Сціраю пыл з паліц бібліятэкі,
І мне здаецца, тут я — вечны госць,
Дзе кніжкі ўсе — жыцця майго люстэркі.

Адлюстравалі трапна вобраз мой
Гамер, Шэкспір, Петрарка і Купала...
Цвярозы штрых пра мой скразны запой
Пакінуў Блок, калі яго хістала...

Я ёсць паўсюль — Іешуа? Пілат?
Хоць цэнзары мой дух раскрыжавалі,
Ды геніям — класічнае «віват»!
Мой вобраз імі ўпісаны ў скрыжалі.

І ты, чытач, — а ты, магчыма, ёсць
Ці будзеш —
над радкамі не глуміся,
Калі спадзе з душы зямная млосць,
На вобраз свой спрадвечны азірніся...

2 Зак. 853.

◆ ◆ ◆

Зіма...
Вароны чорныя драсуюць белы снег.
А я паперу крэмзаю няшчадна.
Шукаем неабходнае.
І ўрэшце —
Здаволімся мы тым,
                    чаго —
Няма...

## МАСТАЦТВА

...Марозная яснасць начэй.
На шыбах узоры мастацтва...
Ім — век ці імгненне — застацца
У зрэнках адкрытых вачэй?

Таемнае бачыцца мне...
Ці сум абступае, ці радасць —
Змяняе адразу парадак
Адценняў узор на вакне...

О геній, зямны чалавек,
Мазок твой — не без святатацтва...
А ты, незямное мастацтва,
Не змеж маіх сонных павек!

Малюй мне на зрэнках вачэй,
Нібыта на шыбах ваконных,
Узоры, якія яшчэ
Не зведзены намі ў каноны.

Здзіўляй прастатою пісьма,
Касмічнай метафарай зместу,
Як аўтар біблейскага тэксту,
Хоць аўтарства там і няма.



Калі паэт нараджаецца
Ў час дэтэктыўнай прозы,
То чытачы яго,
пэўна,
Народзяцца ў турмах...

## ПРОЗА ПАЭЗІІ

Наіўна: вершыкі пісаць
І прапаноўваць іх для друку,
Бы вечны рухавік ствараць,
Увасабляючы навуку...

А лепш: спякотнаю парой
Разлегчыся на дзікім пляжы
З пажоўклай кніжкаю старой
Сярод браслаўскага пейзажу;

Чытаць ставедамы сюжэт,
Гартаць пацёртыя старонкі,
Адзначыць стыль даволі тонкі,
Пабыць з героем «тэт-а-тэт»...

Разморана забыцца сном
На нейкай думцы сакавітай
І сніць даўжэзны гастраном
Ці флірт з жанчынай знакамітай...

Прачнуцца... Бегчы да вады
І задыхацца ад свабоды,
Якую не спазнаў тады,
Калі пісаў рандо і оды...

* * *

Хрыста распнулі, каб даказаць,
Што нават святое можна ўсмерціць.
Але ж Хрыстос уваскрэс на трэці дзень.
Спрабую зразумець іудзеяў —
Яны і тут былі першымі...
А што ж мы, хрысціяне,
Прыхільнікі Кнігі кніг,
І па сёння нішчым вечнае і святое,
Спадзеючыся, што яно ўваскрэсне/
Праз тры дні,
Праз тры гады,
Праз сем дзесяткаў гадоў,
Пасля нас...
Дзень пры дні мы распінаем свайго Хрыста...
А што, як наш «Хрыстос» не ўваскрэсне?!

# СЛАВЯНСКІ ПОГЛЯД НА ШАГАЛА

Ён летуценна маляваў.
Аляпавата і класічна.
І ўсё ж на нас не паўплываў,
Паколькі мысліў нелагічна.
(Ды гэта, ўрэшце, не трагічна.)
Славянскі вобраз не лятаў.
Шагал лятаць сябе прымусіў —
І крылы духу распрастаў,
І адляцеў ад Беларусі...
...Гарэлі фарбы ў палатне,
Бы кроў Хрыста на плашчаніцы.
Квадратам Чорным у вакне
Сцінаўся свет да таямніцы...
І кучкаваўся дождж сляпы,
І вецер выў па-іудзейску...
А прыдарожныя слупы
На Віцебск беглі па-зладзейску...
Пралетуценіў доўгі век,
Лунаўшы ў снах над намі часта,
І ўсё ж памёр, як чалавек
Без месца кроўнага жыхарства.
Што ж, ён выдатна маляваў.
Ды не прад сном яго схілюся,
А перад явай моўкну ў скрусе:
Ён Беларусь не адкрываў,
А ўсюдны свет для Беларусі,
Які яму айчынай стаў.



Перабіраю, як пацеркі, словы...
Збіваю рыфмамі строфы радкоў, як цвікамі...
І раптам чую — за вокнамі — дождж...
З вачэй і з шыбаў
Змывае трызненні ночы...
Паэзія — гэта выпадковы дождж
На смагу душы...

## ІРАНІЧНЫ ПАНЕГІРЫК САРТРУ

Я чытаю ў беларускім
Перакладзе
Жан-Поль Сартра,
Твор грызу наскрозь французскі
Без эмоцый і азарту...

Сам сябе лаўлю на думцы:
Не вазьму я Сартра спехам...
Ен, вядома, — не Канфуцый.
Што ж, і я — не Леў Сапега.

Лепш ужо на том Прыходзькі,
Як на бруствер, абапруся.
З ім мы сёння аднагодкі
У суверэннай Беларусі.

Абапруся, зажуруся,
З ім дайду да Эльбы ўпарта...
Там, магчыма, і злаўлюся
Тонкім невадам Поль Сартра.

## ТУТ

Палудную ў людной кавярні.
Палову гадзіны
Чакаючы прахалоднага булёну,
Успамінаю гарача-сытую матчыну капусту...
...Па заплямленым настольніку
Ганяю тлустага прусака...
Вольна жыць у Айчыне
Нават прусакам у харчоўні!!!
Чаго ж яшчэ?!
Якіх яшчэ пранцаў?!
Дапіваю светла-празрыстую —
Як маё жыццё —
Гарбату...
«На тры пяцьдзесят наседзелі...» —
Кажа эліпсападобная цётка.
Дзякую,
Схіліўшы галаву так,
Як схілялі яе,
Кладучы пад нож гільяціны...
Сярод няшчасных — я самы шчаслівы,
Бо нарадзіўся і памру ТУТ,
дзе кожны ВОЛЬНЫ настолькі,
Наколькі ў яго хапае сілы волі...

## АДНОСНА МЕСЦА ЖЫХАРСТВА

Увогуле ўсё адно мне —
на якой мне вуліцы жыць.
На шумнай вуліцы Леніна
ці вуліцы Каліноўскага.
Абодва — рэвалюцыянеры.
Сэрцы — стальныя нажы...
Жыў бы раней — у апошняга
быў бы за Маякоўскага.
А лепш за ўсё на Зялёнай
нятлумнай вуліцы жыць.
І чуць ад дзяцей тутэйшых
словы продкаў нязменнымі,
І прадчуваць, як час
услед за імі бяжыць,
Пакінуўшы нас на вуліцах
з суровымі
іх найменнямі.

◆ ◆ ◆

Па адзін бок дарогі — Кальварыя.
Па другі — месца пастою
Атрада спецпрызначэння.
Якія дзябёлыя хлопцы
Ходзяць штодзень
Паўз край могілак?!



Раскідваецца восень кляновымі чырвонцамі.
...Сумна...
Нават збіваешся з рытму хады,
Дыхання, думкі...
Мабыць, замнога стронцыю
У кожнай рыжай травіне
і ў кожнай кроплі вады...
І мне Айчыну цяпер
адкрываюць, нібыта Амерыку,
І, як туземцу, вяртаюць памяць
і ўзрост жыцця...
Праверце мае пачуцці —
маю адзіную метрыку!
А ўсім, хто прыйшоў ў нябыту,
расплюшчыце вочы быцця.
Жыццё не бясконца, на жаль,
як алфавітныя літары.
Паспець бы выказаць сваё апошняе Я.
Хачу, каб мяне адпелі
варонінскія прэсвітэры.
Спадзеўка ёсць:
не адрыне мяне пад Клецкам зямля.
Не ў змесце, чытач,
а ў часе і ў месцы — ісціна.
Пачаў я з кляновых лісцяў —
і вось куды занясло...
«Мне хочацца ў жыта ўвайсці», —
скажу, паўтараючы Пысіна,
Жывому баліць жывое,
а мёртвых адродзіць тло.



Толькі ноччу можна любіць
Усё, што днём зненавідзеў.
Напрыклад, Айчыну...

## ДВА ВЕРШЫ ЛЕТА 1991

### I

Отравлен хлеб и воздух выпит.

*Восіп Мандэльштам*

Лагодны, ціхі, з вызначаным лёсам,
Я створаны нашчадкамі Тварца,
Каб у харале людства шматгалосым
Свой голас зліць з усімі да канца.

У зёлак пыльных востры пах бензіну.
Ад колаў квола хіліцца чабор.
І кроў, нібыта ад амінізіну,
Санліва запаўняе сэрца створ...

...Калі ніхто не ведае пачатку
І ўсе ідуць няведама куды...
Пастаўце мне апошнюю пячатку,
Сцярыце на Зямлі мае сляды!

Над бацькам смерць крыло сваё занесла,
А цень яе ў мяне над галавой...
Мы з ім жылі пад Машукоўскім лесам,
Калі трава яшчэ была Травой...

О, памятайце, кроўныя нашчадкі,
Каб вымасціць зваротны Шлях, хаця б
Не высякайце лес увесь на кладкі —
Ідзіце ўслед па ёдзістых касцях...

## II

И думал я: витийствовать не надо.
Мы не пророки, даже не предтечи.
Не любим рая, не боимся ада
И в полдень матовый горим, как свечи.

*Восіп Мандэльштам*

Спякота пякельна апальвае лоб.
Згараю, бы свечка, аплаўлены потам...
Як соладка славіў жыццё ты ўзахлёб,
І знаць не жадаўшы, што здарыцца потым.

У ліпаў пасохлі лістоў языкі...
Рудзеюць іржой лугавыя лагчыны...
А мы як былі, так і ёсць — мужыкі.
Стаім над разрытай магілай Айчыны.

Так жаласна плачам, так сумна гундзім
Над тым, што нам моцы і веры давала.
Не ў неба, а ў глебу панура глядзім,
Бо плоці ў нас многа і духу ў нас мала.

Куды мне замглёны пагляд скіраваць?
Навокал пакорна-гарбатыя спіны...
О, колькі ж сябе ад Цябе вызваляць
І белую кроў тваю піць з пупавіны?!

У чым вінаваты я?
Божа — ва ўсім!
Зжынаю свой лёс, нібы жнівеньскі колас...
Хаўтуры паўсюдна на Белай Русі —
Што нават і плакаць няма каму ўголас...

Даруй ты нам, Маці,— такі ўжо наш род...
А дочкам сваім перарэж пупавіны —
Хай вызваляць свой адбалелы жывот,
Нібыта Зямлю з Чалавекам адзіным.



Адзінае, што не змог зрабіць бацька —
Труну для самога сябе.
Вядома, ён быў сапраўдны цясляр,
Які не пусціць дошкі на гіблую справу...

3. Зак. 853. 



Люблю вераснёўскі рупны дождж...
Акно адчыню і — слухаю,
Як чынна ідзе ён дома ўздоўж,
Нібы гаспадар пад мухаю.

А сёння дождж асаблівы. Ён
Дзіўны і нейкі загадкавы.
Змачыў дарэшты фарсісты клён,
Змыў нумар і дома парадкавы...

Лезе сляпіцай у кожны твар
І маскі змывае з раскаю...
Адзіны сябра мой і ваяр
З канонамі пралетарскімі!

Ах, быць бы —думаю — мне дождджом.
Паплакаць хоць раз без сораму
Перад сябрамі, жонкай, дзіцём
І... перад ворагам скораным...



Нам трэба захоўваць лясы.
У былых партызанаў
З'явілася столькі нашчадкаў...

# СОН

Канаю ў барвовым абшары,
Прыкуты быццяя ланцугом
Да страшнай вар'яцкай пачвары,
Палаючай з пашчы агнём.

Спагады выпрошваць дарэмна.
Ратунку тым больш не прашу.
Вартуе пачвара нядрэмна
І цела маё, і душу.

Душа ж, нібы плод — маладзёну,
Катуе пакутную плоць
І лезе скрозь плоці заслоны,
Але не прыроды супроць.

Яна задыхаецца ў цемры,
Спякоце і дыме густым.
Свой дух скрозь калючыя церні
Не можа данесці жывым.

І нават анёлы начамі
У высі нябесныя ўзняць
Не могуць душу...
У адчаі
Хачу яе д'яблу прадаць
За грош, за акраец, за... волю...
А д'ябал гугнявіць: «Прашу,
Вазьмі маю д'яблаву долю,
А я ўжо спадоблю душу...»

І, значыць, нічога святога
Ў абшары барвовым няма,
І нат спадзявацца на Бога —
Што рай нас чакае — дарма?!

...Бо ў пекле і тут я сканаю...

## СУЧАСНАЯ БАЛАДА ПРА ЦАРКВУ

На могілках вясковых і высокіх
Драўляная царква стаіць спрадвеку
Струхлелая гнілая без крыжа
Вяскоўцы ўсё чакаюць
Што вось-вось
Абваліцца сама званіца долу
Пра іх бязбожнасць абвясціўшы свету
І вынесуць суровыя вымовы
Старшыням сельсавета і калгаса
А поп з райцэнтра будзе задаволены
І пабудуюць новую царкву
Такую новую
Хоць ты для адкрыцця
Замоў па конкурсу разумнікам тутэйшым
Стварыць які Найноўшы Запавет
Але насуперак жаданням тых вяскоўцаў
Стаіць царква на могілках высокіх
Трымае неба боскае званіцу
Старшыні жывацеюць дзяржзаказам
Поп малады балдзее ад Мадонны
Ржавеюць малаткі сякеры пілкі
Пачуцці словы думкі плоць і кроў

## БІБЛЕЙСКІ МАТЫЎ

Нічога новага на свеце,
Як ні паглянь на гэты свет...
Наш цёмны дух развее вецер,
Хады былое знікне след.

Хай плоць ганебная ў закутках
Быццёвых
прагне аднаго:
Сыцейшай будучыні...
Пустка,
Як пастка, зеўрыць на яго.

А ў высях праведнай стыхіі
Штоночы службу правіць Бог,
Ён рызай зорнай не захіліць
Сваіх разбітых босых ног...

І плача грэшніца ў Траецкім
Над юным юдавым быццём,
Бо ўсё на свеце прадаецца
За трыццаць срэбнікаў. Жыўцом.

Бо дзень заўжды пярэчыць ночы,
Пачатак лучыцца канцом...
Бо так задуманы аднойчы
Зямля і люд сваім Тварцом.

* * *

Вясны ўсё няма і няма...
З трывогай хатнія кветкі
Сочаць скрозь шыбы
За чорнымі клумбамі...

## У ВЯНОК ПАМЯЦІ ЖЭНІ ЯНІШЧЫЦ

Яшчэ растане гэты снег,
Ды сыплецца хай срэбраны,
Нібы жаночы звонкі смех
Самоты напярэдадні...

Яшчэ зблажэе на душы,
Ды покуль не маркоціцца,
Наўмысна сонца не тушы —
Яно само закоціцца...

Яшчэ супыніць ток крыві
Сляпая смерць няўмольная,
Але датуль — жыві, жыві...

І ўсё ж гняце крамольнае:
Хоць пад вакном і снег ляжыць,
І сонца ў небе коціцца,
І смех гучыць, і кроў бяжыць,
А —
жыць
ужо
не
хо-
ча-
цца
.
.
.

## НЕАДАСЛАНЫ ЛІСТ

Прывітанне табе зямное!
Сам не ведаю — што са мною...

Перачытваў твае лісты.
У мяне ад цябе іх — тры.
Ад Яўгеніі два — казённых.
І ад Жэні адзін — будзённы.
Два — з рэдакцыі. Так, адпіскі.
Ад рукі адзін. Асабісты.

Мы сябрамі з табой не сталі.
Ты — стыхія, а я — са сталі.
Праўда, ёсць усяму мяжа —
Есць ужо і мяне іржа.

Жэня, страшна бывае ноччу,
Быццам я за табою крочу,
Адарвуся і — палячу...
Ды баюся і ў сне крычу...

Бог не даў мне з пялюхаў крылаў.
Груба скажам: не выйшаў рылам.
Духам — выйшаў, а целам — тут.
Што ж, затое няшмат пакут.

Толькі вось адзінока плоці,
Бы каню ў скуранай аброці.
Есць, вядома, ў мяне сябры.
Іх таксама чамусьці — тры...

Два казённыя — для труны,
Трэці верны, ды ўсё — п'яны...
Есць дачка.
Я чакаю смерці —
Трэба цела з душою звесці.

Не хапае мне тут душы.
Стрэнеш там яе — напішы...
Каб хоць ведала сука плоць,
Што душа яе недзе ёсць...

Ліст дашлю я пасля.
Ганцом —
Словам, думкай...
Перад канцом.

## МАІМ ЛІТАРАТУРНЫМ АПАНЕНТАМ

Калі за што і заб'юць мяне —
То за шчырасць.
Калі ж — не,
То ўсё адно памру я
Ад шчырасці...
На горшае і не спадзявайцеся.



Я жыву ля могілак. Мне — блізка...
Падыду зрэдзьчасу памаўчаць
Каля бюстаў, плітаў, абеліскаў...
Мёртвых трэба роўна прывячаць.
Ля пампезных помнікаў, там — кветкі.
Ля другіх — сухое кветак тло...
Пастаю разгублена ля Глебкі,
Прад Янішчыц пахілю чало...
Караткевічаў валун паганскі
Крыл цяжкіх не можа развінуць,
Вокал Сербантовіча паганкі,
Ланцугамі сцятыя, растуць...
Еўдакія цягнецца да неба,
Мележ прыпадае да зямлі,
І для Палтаран цвілушку хлеба
Птушкі літасціва зберaглі...
Велічы, Краўцовы, Гершанзоны —
Галава да ног — адзін фасон...
Дома ўсе. Адны для ўсіх законы.
Брацтва. Роўнасць. Мір. Свабода.
Сон...
Цяжка тут, між дрэў, травы і кветак,
Разважаць пра наш гаротны лёс...
Я стаю ў палоне Вашых клетак
З поўнымі вачамі Нашых слёз...



На гэтых шэрых і шумных вуліцах
Баюся азірнуцца.
Раптам — ты!
Што я скажу табе,
Глухі і бязмоўны?

## ЭЛЕГІЯ ЗЫХОДУ.
## XX ВЕК

Падобныя ўсе маці —
хоць імгла
Сячэ іх твар, хоць ссушвае задуха —
На дзеву, на Марыю,
што змагла
Зачаць бязгрэшна ад Святога Духа.

Я сёння бачыў той свяцейшы лік,
Што паўтарае твары нашых маці.
...Нямелі вусны, каб не выдаць крык,
І сохлі слёзы, каб з вачэй не ўпасці...

Стаяла, нібы месяц ясным днём,
З працягнутай рукой — душа на ўлонні...
І медзь і срэбра мы ў руку кладзём,
Усё забраўшы з гэтае далоні.

...Праходзім мы ў красоўках «Адзідас»
І ў выцертых да бляску джынсах
«Левіс»...

О, Маці Боская, хто пашкадуе нас
І хто падзеліць нам пароўну хлеба?
Дзе сын-прарок твой, хоць на гэты час?



— Хр-р! Хр-р! Хр-р! —
Гэта спяць натомленыя работнікі.
— Шорх-шорх-шорх... —
Побач завіхаюцца спажывай мышы.
— Топ-топ-топ... —
Бязмэтна сноўдае кот-вертухай.
— Кхе-кхе!
Хто, мадь вашу?! —
Спрасоння грыміць гаспадар
І гэтым будзіць работнікаў
На зары іх светлага заўтра...



Заліты чырванню экраны.
Крывёю змочаны сцягі...
Талмуда, Бібліі, Карана
Нас не трымаюць берагі.

Стаю ля фортки, чаем сыты,
Палю,насвістваю пад нос
Матыў мелодыі забытай
Пра наш лятучы паравоз.

Гляджу скрозь стылыя прысады,
Скрозь гмахі спальных камяніц
На вашы партыі, пасады,
На слуг, што ўпалі воддаль ніц,
З байніцы пятага паверха,
Без маскі гуна і тварца...
...І дом мой носіцца пад ветрам,
Дом без падмурка і вянца...

Зак. 853.



Вясёлы такі жабрак
Днюе ў метро з абаранкам у роце.
Кіну яму апошні траяк —
Няхай падавіцца сваім абаранкам...



Чые я жыцці паўтараю,
Чые я словы паўтараю,
Чаму я тлею — не згараю,
Шляхоў другіх не выбіраю?

Чаму не ўперадзе, не з краю
Сябе на вартасць выўяраю,
Чаму не слаўлю і не лаю
Ні гэты сход, ні тую зграю?

Чаму я зжыўся з тым, што маю,
Сяброў-двурушнікаў трываю,
Чаму і тую, што кахаю,
Ні ў рай, ні ў пекла не штурхаю?

Чые я словы паўтараю,
Чые я рыфмы падбіраю,
Чаму я тлею — не згараю —
Святло і цемру прымішраю...



Зімы яшчэ не было.
Быў снег толькі першы...
Бачыш: счарнелае дрэва
Ліст апошні не выпускае з рук.
І ты трымаешся за мой паліто́н,
Як дысанансная рыфма
За сіратлівы гук...

## ПРАДЧУВАННЕ СЛОВА

За акном маім — цемра.
І ў той цемры скразной
Воля вышняя дрэмле
Па-над пусткай зямной.

...Сакавіцкія крыкі
Ачмурэлых катоў,
І жаночыя ўздыхі
З перасохлых ратоў...

І нібыта Варава,
Сам свой ведаеш грэх:
Сэрца — злева направа,
То ў бяздонне, то ўверх...

І ў чаканні Галгофа,
І мацуецца крыж,
І прыступкамі строфаў
Ты ад кары бяжыш...

...Распінаюць бязгрэшных...
Дык чаго ж ты, паэт,
Грэшных ісцін спрадвечных
На душу не бярэш?

Не рыфмуецца шчырасць
Ні з вінам, ні з гульбой...
Толькі Боская міласць
Есць яшчэ над табой.

Толькі вышняя воля,
Толькі слова адтуль...
І нічога, ніколі,
І нікому...
                    Пакуль
За акном тваім — цемра,
І ў той цемры скразной
Воля вышняя дрэмле
Па-над пусткай зямной.

## РОДНАЕ СЛОВА

Якая ўсё-ткі незайздросная доля:
Качу і качу сваё роднае слова,
Выдыхнуўшы з гартані,
Смакуючы на языку,
Абмацваючы на моц зубамі, —
Усе варочаюцца назад.
Сам са сваім словам вякую...
З ім самотны,
З ім — і шчаслівы...
І толькі адно слова «ма-ма»
Даходзіць да адрасата,
Ды і на яго, як на крык немаўляці,
Хутка ўжо не будзе каму адгукнуцца.
Што ж, тады сам сябе буду клікаць,
Сам — адгукацца.
Сам стану Словам,
Сам — сутнасцю і разуменнем Яго.

## МАЛЕННЕ

...Асушыла душу.
Адабрала мову...
Аб адным я прашу:
Дай пачацца слову,

Хоць ад промня травы
Пры высокім сонцы,
Хоць ад стылай крыві
На руках забойцы,

Хоць ад чорнай тугі,
Хоць ад хмельных чарак,
Хоць пусці на кругі
Звад людскіх і сварак...

Дай пачацца — прашу —
Усяму нанова.
Асвяці мне душу
Боскай моццу слова.

Дай мне вызнаць да дня
Пад закладам ночы:
Што ўсяму ёсць імя —
Боскі знак прарочы.



Цёмнай ноччу
Пры лямпе настольнай
Жыццё нанова перажываю...
Палю...
        А ў дыме
Згасае-б'ецца
Святлом спакушаны матылёк...



*Зянону*

О, толькі б перажыць зіму,
Дажыць да шапаткой лістоты,
Адчуць Айчыну ўсёй істотай,
Пачуць птушыную гурму...

Забыць адліжны мокры снег,
І гразь, і вецер хваравіты,
І страх, і крах, і санавіты
Глухі імперскі рускі смех...

Прабіцца зеленню травы,
Сцяблом выпростваючы постаць,
Паўсюль — ад нівы да пагоста —
Высокай прагнуць сінявы...

Ды каб пазбыцца ўрэшце сну —
Змагчы зіму пад снегам трэба
І, захаваўшы ў зрэнках неба,
Гукаць вясну,
гукаць вясну!



Ты,
Як падснежная трава,
Што адмакае ў весняй ручаіне:
Няма жыцця,
Застаўся толькі колер...



*Светлай памяці брата*
*Васіля Мацейкі*

Жыву бліз Навінак, аднак не ля тых,
Якія жальбой абраслі і тугою,
Дзе твары вар'ятаў на лікі святых
Падобны, як лёсы святых ды ізгояў.

Ах, сам я за ценем ганяўся сваім,
Нібыта маньяк за няўлоўнаю марай...
Са звязкай ключоў санітар-канваір
Стаяў нада мной навальнічнаю хмарай.

Па памяць у Крошын паедзеш, і ўраз
Яе вынішчаць завязуць у Крывошын,
І кінуць цябе на зрудзелы матрац
Бяздум'ем лячыць і сляпіць твае вочы.

Як граў там Іванька на хромцы старой,
Як жаласна пеў ён пра волю і вецер...
Згадаю... І хочацца зноў мне парой
За ценем уласным ганяцца па свеце.

Таму ля Навінак, відаць, і жыву,
Няхай не ля тых... І ля гэтых даволі
Паэтаў, вар'ятаў, чыю галаву
Палоняць пытанні пра вецер і волю...

## ДУША І ПЛОЦЬ

Зазірну ў душу, нібыта ў студню.
І ў халоднай гулкай глыбіні
Воблік свой убачу там паскудны,
Хоць хавай ты вочы ў далані...

О браткі, які я ўсё ж мізэрны.
А пыхлівы! Твар — адны рубцы...
Бы актор, што на пачатку сцэны
Робіць жэст, што быў напрыканцы.

Даў-то Бог, душа яшчэ свіціцца —
Плоць люструе чыстай глыбінёй...
І шкада, што ўжо ім не злучыцца,
Быццам небу з чорнаю зямлёй.



Няпэўная пара.
Скупы халодны дождж...
Пад небам снежаньскім,
Раскрыўшы парасон,
Чакаю снегу...



Ісус жа сказаў: ідзі за Мною і пакінь мёртвым хаваць сваіх мёртвых.

*Евангелле паводле Мацвея, 8; 22*

Ужо няма каго хаваць —
Смурод хіба што трупны.
Ды ў спратах — дзе? якіх? — схаваць
Павеў бяздушша згубны...

Траве там, пэўна, не расці.
А глебе — камяніцца...
Дзе пустку чэзлую знайсці,
Каб злу таму ўмясціцца?

Пакінем ім жальбы кайло
Пад чуйным Боскім небам.
Хай самі пахаваюць зло —
Пагост засеюць хлебам...

Як мала слоў было ў Хрыста,
Ды ў іх найменняў мноства!
Што нават прачытаць з ліста
Жыццё зусім не проста.



Пад Новы год

Нічога не загадваю.
Хоць бы спраўдзілася тое,
Аб чым тужыць закутая ў лёд рака...



...І снег сышоў, і наледзь апаўзла,
І выявіўся лік зямлі лабаты,
Бы чалавечы твар, пазбыты зла
І ўсё ж дабром пакуль што не багаты.

...Гляджу ў сябе, там — чорная зямля.
Адтайвае душа, бы сонца ў лужы,
І робіцца мудрэйшай спакваля,
Здалеўшы ўрэшце халады і сцюжы.

...Узбуджаныя сонцам і цяплом,
Зачнуць, каб змерці і ўзрасціць спакусна —
Жытнёвы колас, што сажнуць сярпом,
Жывое слова, што згарыць на вуснах...



Зімой зелянее калючы кактус.
З паліцы звісае, бы васьміног...
О, дух свабоды ў гліняным гаршку!..



Сярод абрыдлай восеньскай імжы
Не ў радасць мне лубковае пісанне
На голым аптымізме...
Хоць ілжы...

І вось зіма — раптоўна — як адхланне...

Бы сотні растрывожаных надзей
Твой захапілі стан у непрабудным сне,
І ўсё ж, скрозь сон, як скрозь дзіравы мех,
Світае...
Душа твая ўся тырыцца,
расце

Пачуццямі,
як гэты першы снег,
Крыляе...

## ПАМЯЦЬ ТРАВЫ

*Маме*
*з любоўю прысвячаю*

Вясновы пах дурманіць галаву.
Нагамі бела-соннымі дзяўчына,
Нібы ў ваду халодную, ў траву
Ступае і смяецца беспрычынна...

А я гляджу самотна з вышыні
Узросту і дазвання не прыпомню
Цнатлівай босай чуйнасці ступні
Свайго юнацтва на прырэчнай пойме.

Як быццам бы ў травы ўсё той жа пах
І колер паўтараецца нязменна.

...Прымружу вейкі, а ў маіх вачах —
Ляжыць валкамі высахлае сена.
Яшчэ яно не ў копах і яшчэ
Яго чакае цёмная адрына...

З зялёным сырадоем на шчацэ
Смяецца мне ссівелая дзяўчына.

◆ ◆ ◆

Калі маці прадасць карову —
Да каго працягне хворыя рукі?!



Не тое што кветкі люблю,
А проста бываюць выпадкі —
На думцы сябе я лаўлю,
Святлеючы ўвесь ад здагадкі:
Што самым бязрадасным днём
Яны прад вачыма ўзнікаюць —
Сядзяць у двары пад вакном,
Па-бабску табе спачуваюць...

Ах, кветкі — дзявочую страсць —
Не рваў, не купляў на базары...
Мне радасна існасць іх знаць
І бачыць іх добрыя твары.

## ЛЕТА, 1992

А лета ногі загаліла,
Перабягае з ценю ў цень...
І млоснае спякоты мліва
Вартуе пыльны авадзень...

Адно ратуе: рухам звыклым
Лавіць скразняк рукой, бы ў сне...
І тапаліны пух наліплы
Збіваць з кашулі, быццам снег...

Не пачуваць сябе няшчасным,
Забыўшы дом, сяброў, сябе,
А ўсё змагацца з сонцам ясным
І спальваць час у барацьбе...

Пасля, ўначы, інстынктам воўчым
Абнюхваць змрок скразны дарма...
І сонца ў небе не знайшоўшы,
Паверыць — што яго няма.

◆ ◆ ◆

*Ахвярую Анатолю Сысу*

Не плач па тым, што ўжо было.
Смуткуй па тым, што не збылося...
Са злом — на злом вяслуй крылом,
Каб праведна жыццё жылося.

У чуйнай смерці воч няма.
Яна ахвяр не выбірае —
Тых прыбірае, хто — дарма! —
Крылу свайму не давярае.

Айчыну, Маці і Народ
Не праклягну ні ў якай скрусе.
Хто права даў мне на палёт,
Да тых, зняможаны, вярнуся.

Аб тым не буду, што было,
Я смуткаваць — о Бог прамілы! —
Калі [illegible] крылом складуць крыло,
Каб я не меў разняць іх сілы.

...Хай тройчы ўстануць над душой
Тры велічы ў адной выяве...
Каб з целам дух не адышоў,
Каб адляцеў на самай справе...

Каб тут і там трывожыў ён
Жывых, няправедна жывучых,
Каб да людскіх апошніх дзён
Палётамі бяскрылых мучыў...



У Доме літаратара ёсць бар.
У бары сядзіць Сыс.
У Сысу сядзіць чорт.
А я сяджу насупраць
У крэсле з абіўкай
Пад колер нашага сораму.
Адчуванне пагоні не пакідае нас.
Але каму мы патрэбны са сваімі вершамі?!
Мы і самі гонімся за нязбытным...

Віно ўжо не мае смаку,
Чалавек — годнасці,
А кроў — роду...

...Вечнасць распнута над хойніцкім лесам...

«Меў бы Боскую сілу —
Стварыў бы новага Чалавека», —
Злосна кідае ён нікому і ў нікуды.
«Вось гэтая, рыжая, — кажу, —
Што струшвае попел у каньячную чарку,
Тады, напэўна, і зачала б
Ад твайго не святога духу...»
«Не дай Божа, каб біяграфіі паэтаў
Былі цікавей за іх вершы...» —
Гаворыць ён голасам чалавека,
Якога ўжо даўно няма тут...



*Ахвярую А. Асташонку*

...Находзіць ноч,
і ўсё жыве ў сабе...
Тлумачу я нутро сваё сам-насам
І ў нетры апускаюся глыбей
Прыроды чалавечай
з вечным часам.

Які я слабы! — Вам таго не знаць.
Які я моцны! —
Бог адзіны сведка.
Там столькі жыццяў можна нанізаць
На мой хрыбет з метрычнаю даведкай!

Там — мезазой,
там — дзікі чалавек,
Там — зло і тло,
там — соль ад слёз Шэкспіра...
Там — воч не ўзняць
з-пад горычных павек,
Там — новых слоў
пакутна прагне Ліра,
Каб ноч сышла...

* * *

«Зямля круглая!!!» —
Усклікнуў здзіўлены Магелан.
А чаго ж мы штодня спрачаемся:
Якой нам ісці дарогай?..
Увесь час ідучы на Усход,
Усё адно дойдзеш да Захаду...

◆ ◆ ◆

*Ахвяруюю С. Дубаўцу*

Плоць і дух яднае час,
Каб надаць жыццю акрасу,
Каб — як дрэва — сярод нас
Вырастала сутнасць часу.

Ад цябе залежна ўсё:
Квет, і ліст, і плод саспелы,
Рост галін і іх звіццё,
Кроны шум і птушак спевы...

Не пытайся: хто ты ёсць?
Бо пакуль дапнеш адказу —
Час раздзеліць дух і плоць,
А пакіне сутнасць часу.



Мы упэўненыя, што ствараем паэзію
Ці проста пішам дзівосныя вершы,
Калі груваcцім чарнільныя словы
На чыстай паперы.
О Гасподзь міласэрны!
З усіх непрыкаяных
Нам Ты дазволіў найменшае зло.
Шчаслівыя мы ў няведанні ласкі Тваёй.



*Алегу Мінкіну*

Свабодных слоў не стану ўладаром,
Хоць цяжка ім з маёй душы-святліцы
Прабіцца ў свет,
пакутлівым святлом
Высвечваючы духу таямніцы...

І ўсё ж ты не шкадуй мяне — любі
І зразумець спрабуй жывое слова,
Бо ўсе любові нашы — на крыві,
А разуменне — той крыві выснова
З Прамаці Чалавечай і да нас.
...Галіны сохнуць, ды жыве карэнне...

І колькі часу цягнецца той Час
Ад першатворцы да вянца тварэння?!

О, ззыч мне дар: на мове мне святой
Апець Айчыну ў гэты час гаротны,
Калі не мае Слова моцы той,
Якую мела ў вуснах першародных.



Кожны дзень у дзіцячы садок хаджу.
Што я рабіць буду,
Калі дачка мая вырасце?
...Здзяцінець бы за пісьмовым сталом...



*Аляксандру Жгіроўскаму*

Сябры мае, слабее роднасць душ...
З надзённага — бы з клоўна — апранаху
Сарві
    і ўбачыш — воддаль і наўкруж —
Мінулага на сённяшнім адзнаку.

Я продкаў не віню сваіх, аднак
Мой рабскі дух ад іх бярэ пачатак...
І столькі ў нас мінулага адзнак,
Як гербавых на сённяшнім пячатак...

О розум мой, не прыгнятай мой дух!
Дай строгасць думкам, а пачуццям — меру.
Здаўна працуем так: адзін — за двух...
Пасля адзін у двух губляе веру.

Капаем там, дзе заўтра засыпаць.
Спяшаемся, разбіўшы лоб у спешцы,
А там, пакуль мы будзем лоб часаць,
І хлеб збяжыць, забыты намі ў дзежцы...

Хоць мэта ў нас, здавалася б, — адна.
Ды ў кожнага свой шлях да гэтай мэты.
За ўсе грахі мінулага віна
Адна і ў часе будучым, і ў гэтым.

Слабее роднасць душ, сябры мае!
Бязроднасць па Айчыне калабродзіць...
Адным уранку сонца устае.
Другім — у той жа час — яно заходзіць.

І ўсё ж святло яго да нас ідзе,
І ўсім яго пароўну выпадае,
І ў радасцях надзённых, і ў бядзе...
О шчодрае!
І — платы не пытае.

Вучоны лямантуе: да-га-рае!
Мудрэц збірае промні ў барадзе...
Музыка маршы ўзнёслыя іграе...
А сейбіт зерне сее...
Час ідзе...

6. Зак. 853.

◆ ◆ ◆

Ты, плоць сваю забыўшы, спіш...
А я, яе спазнаўшы, халадзею...
Ды месяца святло
Змушае і мяне
Аддацца ночы...

## ВЫПАДКОВЫ ЦЯГНІК КАХАННЯ

*Веры*

А вы кахалі проста так,
Без дай прычыны?
Таму, што вы — зямны дзівак,
І ёсць — жанчына,

Якой трывожна на душы
Суладна [redacted] вашай,
Як плод адзіны ў спарышы
Вы з ёй, няйначай?!

І ў вас адзінае купэ,
Хоць вы білеты
Куплялі кожны па сабе
У цягнік вось гэты,

Які ідзе без перашкод,
Ідзе, грукоча...
І супыняць яго ны ход
Ніхто не хоча...



У закрытым карабку запалак
Пануе чуйная цемра...
Давай не будзем паліць агонь.
Ты ўся гарыш у маіх далонях...



Каханне — гэта адзінота...
Начная келля... Згубны сон...
Самота музыкі, дзе нота
Адна гучыць не ва ўнісон...

Каханне — гэта выпадковасць
Быць не шчаслівым, а святым
І на бажніцу ці падкову
Маліцца ў святы і ў пасты...

Каханне — вечная хімера:
Убачыць рукі з-пад манто...
Журба і заўтрашняя вера
Ва ўсё, што сёння быць магло.

...Як вецер форткі прыхіляе,
Нібы пялёсткі кветак — ноч,
Так слова згубнае «КАХАЮ»
Хай стуліць вейкі Вашых воч...



Жаночы інстынкт
Пераможа дзявочую цноту...
Каб лёс не застаўся пустым,
Падлашчыцца лішка да цоту...



*Веры*

Я шукаў не жонку,
а — жанчыну,
У прыпол якой, нібы ў траву,
Я паклаў бы ў жніўную часіну
Зжытую, як жыта, галаву.

Каб імя яе было, як доля,
Як Айчына...
Каб мяне зямля
Берагла ў сваім глыбокім доле,
Як яна ў прыполе — немаўля...

◆ ◆ ◆

> ...табе адной пажалюся я горам:
> мне сумна, што ты ёсць,
> смяротэльна — што няма.
>
> *Масей Сяднёў*

Час, як з некаханаю жанчынай,
Як прытул без ласкі і цяпла...
Любаю была б адна Айчына,
Вернаю была б, калі б... была...

## ЭКЛЕКТЫКА КАХАННЯ

Сонца згасне, ды святло
Ад сярпа рукі жаночай
Страсна высвеціць жытло,
Аддзяліўшы жар і тло
Дзён былых і гэтай ночы.

...О, жадання хмельны госць!
О, няўтольнае імгненне!
Плоць насыціць нашу плоць,
Нам пакінуўшы трызненне
Неразгаданую млосць...

І няхай нас судзіць дух,
Але кожны дых, і рух,
І агонь, і холад цела —
Уваскрэсне адбалела
І з тваіх заплача рук...



Бывай!
Мы ніколі ўжо не сустрэнемся.
Дзверы зачыніліся перад ваччу...
Цягнік пасунуўся ў цемру,
А рэйкі — ляжаць нерухома.



У доўгіх чэргах вучуся трыванню...
Выжыву не таму,
Што куплю,
А таму,
Што выстаю.



...Калі абступае цемра,
То бачыш сябе самога...



*Н. Г.*

О, Божа, я так нажадаўся святла
У паўзмроку сталічнай падземкі!

З ночы на дзень еду
Ад станцыі нашага «Інстытута культуры»
Праз «Кастрычніцкую» і «Маскоўскую» —
Аж да «Усходу».
З дня на ноч —
З «Усходу» праз «Маскоўскую»
і «Кастрычніцкую» —
Зноў да нашага «Інстытута культуры».

Збрыдзела дарога ў паўзмроку...

Аднойчы вырвуся я з натоўпу
На Ленінскай плошчы —
З білетам да Бацькаўшчыны...

«Мама, — скажу, —
Дай прытулак маёй душы,
Адагрэй сваім сонцам,
Ад якога людзі хаваюцца ў падзямеллях
І едуць
Ад пачатку да канца,
Каб вяртацца ад канца да пачатку...»

## ПАЭЗІЯ

Паэзія — жыццё да верша,
Да слоў, да першага радка,
Калі не зрушана памежжа
Чуцця і думкі...
І рука
Яшчэ бясстрасная,
і вочы
Яшчэ халодныя,
і рух
Наш арытмічны,
і сірочы
Не ўзбунтаваўся ў плоці дух...

Калі ні пахаці грахоўнай
І ні жаданняў незямных,
Калі душа ўбірае роўна
Смяротны час і вечны міг...

Як без кахання дзеўка родзіць
У неспазнаны свет дзіцё —
Так і паэзія прыходзіць
І так праходзіць, як жыццё...

## ЧАС

Не спі, душа.
А плоці дай спачыць...
Такая ноч!
Бы свечкі, тухнуць зоркі,
Што ў цемры гэтай небяспечна жыць...

І толькі дух з глыбінь яе высокіх,
Няўвідны і таемны, нібы гук,
Нутро маё зямное працінае,
І тчэ мой час, як павуту — павук,
І плоць маю на тлен перацірае...

## САМОМУ САБЕ

Калядны час, а — снегу ўсё няма.
І ноч даўно, а — сон вачэй не засціць.
Жаданага чакаць — зусім дарма.
Аб шчасці мроіць — нібы кужаль прасці...

Чым жыць тады? —
таптаць наўсцяж траву,
Чакаючы ўласнага зыходу,
І рыфмамі туманіць галаву,
І падрадкоўна жаліцца народу,
Што ты паэт, народжаны не ў час,
Што слоў атрутных дапіваеш чашу,
Што сіл няма...
напружана гучаць
Душою,
як струной,
пад гнётам часу...

## ПАЛЯВЫЯ КВЕТКІ

На вакне завяў букет
Палявых рамонкаў...
За вакном — вірлівы свет
Мілых пустадомкаў.

Ну, якраз такіх, як я,
Добрых чалавекаў...
І трымае нас зямля,
Як Алах — узбекаў,

У пакоры і бажбе
Зімы ўсе і леты,
Каб змагліся ў барацьбе,
Не спазнаўшы мэты...

Б'юць па левай — падстаўляй,
Колькі ёсць іх, шчокі...
Хочаш — праўду праслаўляй,
Хочаш — двор высокі...

Што ні жні, ні сей з рукі,
А зямля нас прыме...
І ў чатыры ўсе цвікі
Далакоп твой грымне...

І патухне белы свет
Сонечнаю гронкай,
Як засохлы той букет
Палявых рамонкаў...

Нашы тут, напэўна, зноў
Акрыяюць дзеткі,
Кветкі выб'юцца вясной
Абжываць палеткі...

І падобны на мяне
Мілы пустадомак
Зноў засушыць на вакне
Палявы рамонак...



Калі пагляд, як прыцемак, схіляецца
Ніжэй, ніжэй да холаду травы
І ўся душа міжволі прачынаецца,
Нібы істота выспанай савы,
Калі і блізь і далеч пакрыёма
Зліваюцца ў адно і можаш ты
Адчуць, як подых ветру, невядомасць
Тугі струмень касмічнай глухаты,
Калі сябе не болей за быліну
Уразумееш ты, за крохкі крок
Нагой уросшы ў векавую гліну,
Нутром спасцігшы беспрасветны змрок...
Адкуль табе, як будучасць былога,
Уявіцца бязвоблічны Гасподзь,
Усведамленнем добрага і злога,
Пацвельваючы гібельную плоць...

# ЭРАТАГРАФІЯ ДЛЯ НЯВІННЫХ

...Я з губ тваіх любові п'ю атруту,
І цноты шаўкавістая мяжа
Паволі тлее, нібы губка труту,
Пакуль душы даможацца душа...

Цячэ спакусны мёд гаркавай плоці
Скрозь соты абцяжэлыя грудзей,
І цела тваё ў кожным павароце,
Як цеціва нацятая, гудзе...

Душа перакладае шэпт шалёны
Душы —
                і намагаюцца наноў
Высокіх рук заплеценыя кроны
Высмоктваць сок з глыбокіх каранёў...

## ШТРЫХІ ДА САНЕТАЎ ШЭКСПІРА

Чытаць небяспечна Шэкспіра на ноч,
Бо ноччу не змежыш пакутлівых воч.
Сябе ён і нас суцяшае ў санеце:
«Краса не памрэ ніколі на свеце».

О, бедны Уільям! Вялікі Шэкспір!
Ты — слова заложнік і страсці вампір.
Твой геній быў скуты свабодай любві.
Два сэрцы ганялі два токі крыві.

Мужчынскае — мужна валодала сілай.
Жаночае — ласкі цнатліва прасіла...
І ўсе твае мудрыя вечныя словы
З любові, як з рабства, здымалі аковы...

І небам стаў дух твой.
А плоць твая — жвір.
...І драма жыцця не сцэнічна, Шэкспір...



Няма магілы Мандэльштама.
І ўся расейская зямля
Ляжыць разрытая, бы яма,
Яго не ўсобіўшы імя...

Яно — ў цяжарным слове МАМА
І плоць і дух свой зберагло.
НяМА МАгілы МАндэльштаМА...
І што там быць у ёй магло?!

## ЕРЭТЫЧНАЕ

І ўсё, што адбылося, — неістотна.
І ўсё, што адбываецца, — працяг
Ад семені людскога да пагоста,
Да храмаў, змураваных на касцях...

Ніхто канцы з пачаткамі не звяжа.
І ўсе, хто тут, — аднойчы будуць там...
Бо ўсё, што адбывалася, — не наша,
І ўсё, што адбываецца, — не нам.

## НАСТУПНІКАМ

Я з моладдзю хацеў бы быць на «ты».
Хоць з вольнай іх і хамаватай позай
Лацвей было б пазнацца поснай прозай,
Ды многа ў прозе шлаку і вады...

Да твару ім паэзія! І што ж,
Як не мая, а Сыса ці Пацюпы —
Хай зрынуўшы абрыдлы грукат ступы,
Палошча душы іх касмічны дождж...

Люблю я іх свабоду і пратэст
Супроць параграфіраваных нораваў...
І часта «двойкай» едучы па Кнорына,
Бы збоку, назіраю той гратэск:

Зашпілены ад ног да галавы,
Адпрасаваны, вымыты, пахучы —
І вонку вытыркаюць скрозь анучы
Мае ўсе абавязкі і правы...

І тут жа, побач, — страсны дзіўны твар,
Жывых эмоцый і жаданняў поўны!..
А я сяджу — рахманы і бяскроўны,
Свайго жыцця не зварухнуўшы жар...

Пра што яны гагочуць — nicht verstehen*,
Мне мова іх санскрыту невядома.
Я толькі зразумеў, што жыў бы доўга,
Калі б глытаў не «вермут», а «глінтвейн»...

* nicht verstehen *(ням.)* — не зразумець.

Гляджу на іх тусовачны камізм
І думаю пра іх не без камізма:
Пакуль накормяць нас капіталізмам —
Мы ўвесь ім скорміم свой сацыялізм...

І ўсё ж,
          у іх наперадзе — жыццё...
У нас — хаўтуры,
                    провады,
                         пакуты...
Ды ўсё-ткі МЫ сарвалі з ног іх путы!
Віват, юнцы!
               Ці з богам ідзяцё?!

## ДАЧЦЭ КСЕНІ

Як многа ведае дзіцё!..
І — жах! — як многа мной забыта,
Пакуль уласнае жыццё
Я прыстасоўваў да карыта...

І ў сорак — страшна пастарэў...
Не пазнаю адлюстравання
Свайго ў вачах сяброў.
Згарэў
Даслоўна, да самазмяркання...

А трохгадовы мой ваўчок,
Бы цень,
заўжды перад вачыма —
З нагі на ножку скок-паскок —
З пытаннем: «Тата, ты мужчына?!»

О, што сказаць табе, дзіця?!
Я ўжо на многае забыўся...
Не зарыфмуй з жыццём быцця,
Каб хоць табою я адбыўся.

## АРЫФМЕТЫЧНАЕ

На кухонным стале — яблык,
Разрэзаны на дзве долькі.
Мы падзялілі яго папалам
З дачкой Ксеняй.
...Не дзьміся, маленькая:
Хоць і не складаецца падзеленае,
Але — множыцца...

## УСПАМІН З 70-х

*Прышчэпу П. П.*

У згубным доме чорны «вермут» п'ю,
Закусваю цыбуляй вялай з соллю
І белы свет, як ёсць, люблю, люблю
Жывёльнай неспатольнаю любоўю...

Схілю чало, і «Прыму» запалю,
І, німбам дыму едкага абвіты,
Нутром крычу пра тое, як люблю
Вось гэты свет, дзе ўсімі я забыты:
Прыпухлай бабай і гаспадаром,
Стаптаным службай вулічнай сяржантам
І смерцю, што прыйшла за мною ў дом —
Змаглася і заснула пад сервантам...

Сыду адсюль. І выйду на райкам,
Што бачыцца з вакон любога дома,
Дзе ленінская мудрая рука
Паказвае на шыльду гастранома...

Дзівосны свет! Жыві, браток, жыві,
Гайдай зямлю вясёлымі нагамі,
Шчаслівы міг жыцця свайго лаві!
І помні: Ленін — з намі, Ленін — з намі!

## КЕША

> А ты, змарнелы чалавек,
> Нікчэмны пасынак былога,
> Сваю пушчаеш песню ў здзек,
> Чужою славіш нават Бога.
>
> *(Я. Купала)*

Што, самотнік-папугай,
Б'ешся ты ў сталёвай клетцы —
Колькі крыллем ні махай,
А турма твая — на месцы...
Гаспадар табе на грош
Корм дае і мару песціць,
Што на мове яго ўсё ж
Загаворыш ты нарэшце.
І вядома, што затым
Ён гасцей пакліча спешна
Паказаць, якім ручным
І зґаворлівым стаў Кеша.
Ты ж упарта на сваёй
Па-птушынаму лапочаш...
«Хочаш быць самім сабой?
Хочаш мець уласны пошчак?!» —
Гаспадар гудзе, як гляк.
А турма ў стальной акове...
Што ж, крычы яму: «Дур-р-рак!!!»
На яго савецкай мове.
Хай пацешыцца, пакуль
Зразумее вырак долі:
Дурнем быць яму датуль,
Покуль жыць табе ў няволі.



*Памяці папугая Кешы*

...Вецер за вакном лістоту косіць
Скразняком
у вымаклым падворку...
Папугай жа вылецеў у фортку —
Дзе яго якая сіла носіць?!

І пустая клетка драцяная,
Рот адкрыўшы,
дзівіцца такому:
Цёпла тут і столькі камбікорму! —
І куды ён, дурань, уцякае?!

З кута ў кут хаджу я без надзеі.
Сам, як папугай, свішчу для форсу...
І нарэшце — зачыняю фортку,
І гляджу — астрожнікам — на дзверы...

## НА ЛУЗЕ

Дачка ловіць матылька...
Я лаўлю дачку...
Мяне ловіць трава...
...Невад неба навіс...

# НАСТАЛЬГІЯ

> Мой родны кут, як ты мне мілы!
> Забыць цябе не маю сілы...
>
> *Якуб Колас*

Адвык я ад сялянскай цяжкай долі.
Пра родны кут амаль што не пішу.
І толькі ўвосень на бацькоўскім полі
Я ўспамінаю ўласную душу.

Прадмова лёсу тут і пасляслоўе.
Тут кожны крок забранзавеў расой.
Зялёнага дзяцінства пагалоўе
То смехам адгукнецца, то слязой...

Старэю я. Душа мая пражыта,
Бы зерне, што аддадзена зямлі...
О, колькі мы ў цяжарным слове ЖЫТА
Асацыяцый з лёсам зберaглі!

Гасподзь жыве пад мацярынскім небам.
І тут тварыць маленне ці імшу
Таму, хто жыў адзіным толькі Хлебам
І толькі ім збярог сваю душу...

А я вось — грэшнік, пілігрым няшчасны,
З зямлёй бацькоўскай абарваўшы ніць,
З душою развітаўшыся заўчасна,
Тым Хлебам плоць асуджаны карміць —

Прыходжу слухаць на пагост вясковы
Травы глыбінны гамерычны дых,
Які ўмяшчае ўсе зямныя словы,
Даступныя для мёртвых і жывых...



*Галі Булыка*

«...А пачынаецца паэзія
Там,
дзе канчаецца паэт...» —

Прыйшло ў галаву і асела.
Ну, думаю, колькі яшчэ
Маіх намаганняў і — ўрэшце —
Напішацца ёмісты верш...
Палю я свае цыгарэты,
Нервовыя клеткі псую,
Вымерваю клетку кватэры,
А чуецца толькі адно:

«...А пачынаецца паэзія
Там,
дзе канчаецца паэт...»

І ранкам вось з гэтае фразы
Пачаў мітуслівы свой дзень.
І чую, як тахкае сэрца
У рытме тых самых радкоў.
Ды праца, сябры і застолле
Разветрылі одум і дзень
Да вечара сонцам схіліўся...
І ноч мне дыктуе сваё:

«...А пачынаецца паэзія
Там,
дзе канчаецца паэт...»

Душэўную я раўнавагу
Губляю
        і ўжо сцерагу
Ад думкі сябе непамыснай —
Не ведаць ніякіх больш слоў...
Дык вось ты якая пакута —
Падняць непад'емны вянец,
Забыць пра рандо і верлібры,
З-пад нёба да неба сказаць:

«...А пачынаецца паэзія
Там,
        дзе канчаецца паэт...»

## НАЧНОЕ

За вокнамі трамвай на вуліцы грукоча.
Апошні ўжо, відаць. І ён спачыну хоча.
А я сяджу на кухні.
Мой мозг яшчэ не дрэмле.
І побач мыты посуд да глянцу сушыць пер'е,
І жонка, і дачка забыліся ў падушках,
І клетку не дзяўбе зняволеная птушка,
І сцішаны народ адлежваецца ў стоме...
А я адзін не сплю ў яго бязладным доме.
Астаф'ева вазьму, то нашага Арлова...
Ды слова, як агонь, другое паліць слова.
Нямею я. Свае — сырыя для падпалкі...
(Якраз як пад рукой з Барысава запалкі.)
І думаю: чаго сяджу я тут, на кухні,
Так позна, а святло ў вачах маіх не тухне?
Мажліва, больш ніхто сярод вось гэтай ночы
Не помніць вас ужо і помніць вас не хоча,
Забраных сном,
як пальцы прытулкамі пальчатак, —
І ў вашага жыцця адзіны я нашчадак,
Адзіны спадкаемец і праваднік адзіны
Начнога цягніка, што збіўся з пуцявіны
І мройліва ляціць у часе і прасторы,
І тухнуць перад ім, як зоркі, семафоры...
Бог з вамі!
Я слабы́.
Пара і мне ля боку
У жонкі падрамаць. Тым болей што звысоку
Заглядвае ў вакно і свеціцца глыбока
Усёбачнае — наскрозь пранізлівае —
ВОКА

## ДУША

*Міколу Купрэеву*

У храме Восені — ні служкі, ні ратая.
Прыпаўшы да зямлі, малітву шэпча ліст...
Гарласты клін гусей пад купалам рыдае,
Гартанна п'е тугу задыханы гарніст...

Душа сышла няўзнак, вандруючы ў
прыродзе,
Бы з торбаю жабрак, гатовы да ўсяго:
Прыняць, як дар, дабро,
што стрэнецца ў дарозе,
Сцярпець пакорна зло, прыгубіўшы яго...

Каб зноў на схіле дня, вярнуўшыся ў астудзе,
Растросшы з торбы медзь на мокры тратуар,—
Таемна і балюча ўвайсці бяскроўна ў грудзі,
Набыўшы мой зямны богабаязны твар.

## КАЛІ ТАБЕ ЗА СОРАК

Калі табе за сорак і нялёгка
Знайсці ўжо рыфму свежую, нібыта
Кашулю, паравешаную жонкай,
То мусіш дзеясловамі грымець...

Калі табе за сорак, то садзіся
За стол пісьмовы з кавай,
з цыгарэтай —
Пішы самотна-бытавую прозу,
Клубамі дым пускаючы пад столь...

Калі табе за сорак, то міжволі
Ты будзеш мітусліва пагаджацца
З усякай драбязою недарэчнай
І настальгічна лаяцца пад нос...

Калі табе за сорак, то ўжо лічбы
Душу гвалтуюць і цяжараць розум,
А словы нараджаюцца без болю,
Сухімі, як абвесткі на слупах...

Калі табе за сорак — адрачыся
Ад літары апошняй алфавіта.
Сляпы Гамер прадбачыў гэту долю...
Вяслуй далей ад вострава сірэн!..

## ЗАЎЧАСНАЕ

### I

Баліць маё сэрца
Не метафарычна —
Фактычна.
І б'ецца
Яно арытмічна.

Заціхне пад вечар
Падранкам загнаным,
Ледзь чутна трапеча,
Залізвае раны...

Каб лена і мляўка
Сустрэўшы світанак,
Зняможана хаўкаць
Ля зёлкавых шклянак...

Яно адхварэла
За лёс і за словы.
І вось — адгарэла:
— Бывайце здаровы!

Туфты не крамзольце,
Сябры, ў некралогу;
Між вас — на самоце —
Я здолеў дарогу

Ад слова да сэрца...
А з крэсла на лаву
І сам я — паверце —
Як-небудзь ды лягу,

Нямы і груvасты,
Бы камень, спакойны...
Жыцця ўжо не варты,
А смерці — дастойны.

## II

Час надыдзе паміраць —
Дайце свечку ў рукі.
Буду светла памінаць
Радасці і мукі,

Што прыпалі на мяне
За грахі і цноту...
Памяць хай не абміне
Са́мую драбноту...

Каб у скрайні міг якраз
Я прыпомніў існа:
Дзе, калі, каму я з вас
Зло чыніў наўмысна...

Каб паспеў, нібыта ў сне,
Згледзець тыя вочы,
Што прабачылі мяне
Перад зеўрай ночы,

Каб і сам я зацяпліць
Не спазніўся слова,
Наказаўшы доўга жыць
І не дзеяць злога...
І без смутку і жальбы
Адгарэў, як свечка,
Без усякай барацьбы
Класавай...
Навечна.

## НА ГАДАВІНУ ПЕРАСЯЛЕННЯ БАЦЬКАВАЙ ДУШЫ

Ты не сумуй у адзіноце, бацька.
Бо хутка мы збяромся Там усе...
Наведай свайго бацьку ці суседа —
Пагамані і раскажы, што ў нас
Тут дзеялася добрага й благога
За іх адсутнасць доўгую...
Дарэчы,
Мажліва, гэта слова да цябе
Я ўсё-ткі надрукую ў нашым «ЛіМе»,
І, ведама, вясковай нашай мовай.
Мяркую, што і Там яна не ўмёрла,
Бо столькі беларусаў узняслося
На вуснах з крэўным словам ад Мацея,
Каторы празываўся Бурачком...
Мы Тут будуем новае грамадства
З савецкім чалавечым грубым тварам.
Пра тое скажа вам Міхась Ткачоў.
Паслухайце, бо Тут яго не чулі...
Зямлю не прадаюць і не купляюць
І акурат не абрабляюць нават.
А ўсё паўсюль настолькі ўдаражала
Адносна курсу нашага сумлення,
Што сёння адэкватнае рублю!..
Таму ёсць біржы, нешта тыпу баржы,
Дзе бражнічае некалькі матросаў,
Сплаўляючы па плыні капіталы...
Ды ўрэшце я і сам ва ўсім не цямлю,
Таму жыву з аванса да зарплаты,
А Ванька-узурпатар — кожны дзень...

Нягледзячы на гэта, мы святкуем
Усе на свеце даты, акрамя
Суботы і нядзелі...
Я прашу,
Шапні цераз Апостала няўзнак
Ты Госпаду, што сын твой Леанід
Ніякай не запэцканы крывёю,
Прынамсі, чалавечай, бо да ўгодкаў
Тваіх свінчо мы ўсё-ткі прыкалолі...
І калі ёсць Там пэўная работа,
Хай прытрымае для маёй душы.
Я змогся на падзёншчыне... Скажы,
Без выхадных і святаў — дзень і ноч —
Я буду адрабляць зямны аброк свой
З натхненнем і душой...
Ну, што яшчэ?
Сабралася тут маці да цябе
І Млечны Шлях намацвае вачыма...
Браты мае ганяюць на машынах,
Згубіўшы ўсе правы на летуценні...
А пра мяне ты ведаеш, таму —
Там месца абжывай, карпей, будуйся...
Бо для таго і вопыт твой зямны,
І лёс бацькоўскі твой,
І Бог — настаўнік...

На гэтым я і скончу свой аповяд,
І з маці перадам, а мо — і сам...

## СНЕГ...

Белы, чысты, светлы снег
З неба свеціць.
Галаву ускінь уверх
І — аслепіць...

Днём нядзельным я стаю
На пагосце,
Знакі мёртвым падаю́ —
«Ну, выходзьце...»

Не скрануўся ні адзін
Крыж магільны...
О Гасподзь, не асудзі.
Я — наіўны.

Што ім гэты белы снег,
Будні, святы?!
Пэўна, сплачваюць свой грэх
Неадплатны...

Кошт зямны тут роўны ўсім —
Пан ці лёкай,—
Можа, там, «на небясі»,
Ёсць палёгка,
Там, адкуль чысцюткі снег
Нам спадае,
Нашы даты,
лёс
і смех
Замятае...

## ПРАЎДА

На скрыжаваннях зла і здрады
Шукаўшы праўду між хлусні,
Мы самі выракліся праўды
І сталі іншымі людзьмі,
Дзе, адвяргаючы парады,
Прымаюць іррады парад.
А хто дашукваецца праўды —
Тых судзіць праведны пілат.
Тут ні на міг не дрэмле стража
І юды ўсе да аднаго
На месцы.

Кожны з іх пакажа,
Перш чым пакажуць на яго.
Пілат, канечне, разумее
Аблуду — існасці наўзбоч,
І пяцікніжжа ад Майсея
Чытае ў гібельную ноч...
І мы яму ўжо спачуваем...
Хоць покуль доўжыцца вярста
Зямнога веку,

адчуваем
Сябе забойцамі Хрыста.
...Адліта помнікаў без ліку
І панамазана ікон!..
А праўда існая — без ліку
І непадсудная, як сон...

## НА БЕРАЗЕ

Гляджуся ў ваду
І бачу сябе — вадою...

## ВЯСНА

У сваёй «хрушчоўцы» непрыглядная,
Там,
дзе кніжкі абжылі куты,
Чорны хлеб смакуючы ашчадна,
Дажываю век свой залаты...

За сцяной — гуляе развядзёнка.
За другой — маркоціцца ўдава.
Ля кухоннай ракавіны — жонка.
За вакном высокім — сінява...

...Май.
Самота...
Квеценню буяе
Камень пад дзіцячаю рукой...
І трава — зялёная, жывая —
Што ляжаць не страшна пад такой...

## ГАРМОНІЯ

І бэз і чаромха цвітуць пад акном...
А я пад адчыненай форткаю
Гародзенскім тухлым дымлю тытунём
І лірыкі том перагортваю...

Дабро — што ад Бога
і зло — ад сябе,
Мяжу між сабой як ні гнулі крывую,
А ўрэшце, змагліся ў сваёй барацьбе —
І п'юць на вачах у людзей міравую...

Ах, Зло і Дабро — дзеці маці-Зямлі
І Космаса-бацькі!
(Апошнім — забытыя.)
Вам дзякуй за тое, што ўсё ж зберaглі
Адамам і Евай ад веку набытае!

...Удыхваю дым я і бэзавы пах
І слёзы і радасць жыцця перамешваю —
І Космас, мой бацька, стаіць у вачах,
І маці-Зямля сіраціну суцешвае...

## ТЭАТР ЖЫЦЦЯ

Ах, тэатр, ты — быту забыццё!
Ды сцэнічным ролям я не веру,
Хоць жыцця спрадвечную хімеру
Больш люблю я за само жыццё...

І душа мая і розум мой
Пад будзённаю апраткай плоці
Дыялог вядуць паміж сабой,
Бы ў застоллі выпадковым госці.

Сам сабе — глядач я.
Сам — актор.
Наш тэатр настолькі драматычны,
Што калі б на сцэне я памёр,
То — сканаў бы ў зале я фактычна...

Ды пакуль не выплакалі слёз,
Не парвалі свой ланцуг палону,
Мы іграем наш адзіны лёс,
Каб сумесна апусціць заслону.

## ЛЕСЫ

Пра Купалу багата
Ходзіць розных гаворак:
Што была яго хата
Месцам шумных вячорак;

Францаватая жонка
Паўнаўладдзе там мела,
А нацдэмка Мядзёлка
Ад нязбытнага млела...

І любілі па праву
Яны ўвечар і ўранку
Больш Купалаву славу,
Чым самотнага Янку...

І калі ён загінуў
Ад Айчыны далёка,
То жанчын тых пакінуў
Паміраць адзінока,

Што дзяцей не купалі
І не доўжылі роду...
А самота Купалы
Засталася народу...

## ВОЎЧАЕ

Усіх і ўсё люблю,
апроч
Сябе,
а болей — ненавіджу
Сваіх начных жалобных воч,
Трывожных дум начную грыжу...

Я — воўк,
прыстаўшы да людзей.
Сам — і драпежнік і ахвяра.
Хачу спазнаць: за што і дзе
Мяне людская знойдзе кара?
Затое, ведама, што — воўк,
Што я хаджу па самай броўцы,
Што не ступаю кроку ўбок
І не даюся дрэсіроўцы,
Што сам зжываю ўласны лёс,
Што вырак ма́ю ад прыроды:
Не ліць сабачых рабскіх слёз
Над косткай вернасці і згоды...
/Што ў сцюжным сэрцы я нашу
Любоў да лю́дскае натуры
І не прадам сваю душу
Дзеля ратунку ўласнай шкуры.../
...Я буду страшна паміраць,
Рвучы касцей сухія грудзі,
Каб адпусціць душу —
спазнаць,
Як ненавідзяць воўка людзі.

Зак. 853.



А многім так проста на свеце жывецца!
Так лёгка ім многае лёсам даецца:
І хлеб аржаны, і бяседнае слова...
Жыццё ім — звычайна,
і смерць ім — не нова...
І смерць ім не нова?!
Ах, што ж я, бядак,
Душу сваю д'яблу не збыў за пятак?!
Не збыў за пятак...
Як усе не жыву,
А думай пакутнай тлумлю галаву...
І свет мне — нязнаны,
і нова — жыццё,
І смерць — патаемна,
і рабствам — быццё...

Ды слова, пачутае мной выпадкова,
Мяне суцяшае, бы шчасцем — падкова.
Я сыты зямлёю,
а небам — жаданы...
Смяецца мне воля
і плачуць кайданы...
Кайданы мне плачуць,
а воля смяецца,
І век на зыходзе...
і час ім сустрэцца...

## НОЧ

З табою я сустрэўся нечакана
У мацярынскім чэраве...
                                        І доўга
У тваёй калысцы гойдаўся без слёз...
Святло свайго пакутніка шукала,
Ды я не падпускаў туды нікога,
Выбольваючы свой і матчын лёс...

І з той пары я да цябе цягнуўся,
Шукаючы сваё наканаванне;
І месяцам свіціўся сэнс душы...
Каханай стала ты...
                                І ў роспачы, і ў скрусе
Чакаць я стаў світання,
Каб чуйных чорных губ разліпліся смаўжы...

Ды дзень нас разлучыць не меў ніякай моцы
Святлом сваім.
                        І сталася, нарэшце,
Ты жонкай мне, дабранай, як труна...
Світаеш нада мной азораным лахмоццем,
Прыкрыўшы воблік цноты за воблакам.
                                                            Смяешся,

Што выбару не ма́ю,
                                што ты паўсюль — адна...

## ДаСЛОЎНАЕ

Так многа слоў, а сэнсу ў іх — няма.
Гасподзь не даў яшчэ ўсяму імёны
Сапраўдныя...
Таму — гучыць сурма,
І пішуцца дзікунскія законы,
І бубны б'юць, і вогнішчы гараць,
І спальваюць і кніжкі і вядзьмарак,
І грубай рацццю сунуцца на рацць,
І сонца лік ледзь-ледзь свіціцца ў хмарах...

А сэнсу ўсё няма...
Здаецца мне парой —
Жыццё маё не ёсць,
а мне заЯЎНА сніцца...
Так цёмнае акно на зорны зеўрыць рой,
Хоць зорка ні адна не можа ў ім змясціцца...

Высокі сэнс — нямы, таемны,
і дарма
Разгадваць сутнасць слоў, згадаўшы іх імёны,
І прагнуць зразумець: чаму гучыць сурма,
І голасам яе з нас кожны памянёны...

А памяць пра жыццё якая змесціць мова?!
О Слова, ты — Гасподзь.
А ты, Гасподзь, — ні слова...



Хутчэй бы дзень прайшоў!
Мінула б ноч хутчэй!
Так падганяў я час за мэтай...
І вось — паўВЕКАВЫ — стаю
Перад сканчэннем ВЕКУ...



Няма цябе...
А знакі ўсе жывуць
Твае
ў кутах кватэры нелюдзімай...
Завялі ў шафе кветкі на сукенцы,
Пялёсткамі,
нібыта немаўляты,
Шукаючы саскі тваіх грудзей...
На ложку,
згвалтаваным адзінотай,
Прачытанай,
завучанай на памяць,
Бялеецца бяроста прасціны...
Набітая тваімі валасамі,
Жаночымі чужымі галасамі
Падушка будзіць сон...
А памяць прарастае згубным семем
Тваіх шчымлівых сударгавых слоў —
І паўстае абуджаная плоць
Шукаць цябе па ўсім пустым Сусвеце...
Пытаюся: Што́ гэта —
страсць,
любоў,
Каханне
ці шчаслівае вар'яцтва?!
Цябе — няма,
а знакі ўсё сцвярджаюць...

## МЕЖЫ

(замест абяцанага ліста
Масею Сядноёву)

...Неба ўпадзе на зямлю.
Расцячэцца па азёрах...
Сто разоў тваё ЛЮБЛЮ
Адгукнецца ў слове ВОРАГ.

Ногі выбеліш расой.
Вочы вымачыш блакітам.
Пахне хлебам і дзяжой
Жоўты жвір густога жыта...

Птушка сонна закрычыць.
Сонца выпрастае промні...
На Айчыне: ЖАЦЬ і ЖЫЦЬ.
На чужыне: ЖДАЦЬ і ПОМНІЦЬ.

Светла глянеш на камель
Цёмнай гомельскай бярозы...
Пагасціў...
                    Праходзіць хмель.
Застаюцца словы, слёзы...

Што́ з тых слоў — хоць выдай том!
Што́ з тых слёз — хоць плач душою...
Там і тут цяпер твой дом.
Той і гэты — за мяжою...



Кожны дзень
ЕН
Спатыкаўся аб камень
Непадалёк ад сваёй хаты...

...А з труной — абышлі.



«Я — поэт и этим интересен».

*Ул. Маякоўскі*

Я — паэт.
I гэтым нецікавы.
Бо падслухваю за кожным словам,
Як стукач з вядомае управы
Ці фенолаг на птушыных ловах...

Вам — каму ўсе словы ёсць патрэба,
Неабходнасць сувязі ў прасторы —
Тыя словы не заменяць хлеба
I віна
ні ў радасці, ні ў горы...

Для паэта ж слова ёсць раскоша,
Страсць — паймець на міг і падзівіцца.
Плача хай пасля,
пяе,
шапоча,
У фаліянтах класікаў пыліцца...
Але — дай яго паймець мне, Божа,
I ўявіць у ім Тваё аблічча...

## РАЗВІТАННЕ З КНІЖКАЙ

Усе — апошні верш і першы —
Знямеюць...
                    Сціхне іх гурма...
Бо ні ўва мне самім, ні ў вершы
Усё ж дасканаласці няма.

...А каб напісанае сцерці
І ўсё нанова напісаць —
То трэба, перш за ўсё, памерці
І — немаўлём з магілы ўстаць...

## ЗМЕСТ

**Галубовіч Л.**

Г16 **Заложнікі цемры: Вершы. — Мн.: Маст. літ., 1994. — 142 с.**

ISBN 5-340-01399-5.

**На пачатку 80-х гадоў Леанід Галубовіч ярка дэбютаваў у нашай паэзіі кнігаю «Таемнасць агню». З таго часу паэт выдаў некалькі зборнікаў, і ўсе яны трапілі ў чытацкае поле ўвагі. Паэзія Л. Галубовіча вылучаецца сваёй вобразнай жывасцю, натуральным гучаннем, высокім узроўнем пісьма. Лепшыя творы паэта годна працягваюць традыцыі нашай класічнай паэзіі.**

Г $\frac{4702010201 — 055}{М 302(03)—94}$ 35—94 ББК 84(4 Беи)

Літаратурна-мастацкае выданне

ГАЛУБОВІЧ
Леанід Міхайлавіч

**Заложнік цемры**

Вершы

*Рэдактар К. Я. Жук*
*Мастак Г. Г. Малышаў*
*Мастацкі рэдактар А. М. Малышава*
*Тэхнічны рэдактар Т. М. Сокал*
*Карэктар Л. Т. Калюжная*

Здадзена ў набор 23.08.93. Падп. да друку 13.01.94. Фармат 70×90[1]/32. Папера афс. № 1. Гарнітура школьная. Афсетны друк. Ум. друк арк. 5,27. Ум. фарб.-адб. 5,42. Ул.-выд. арк. 3,34. Тыраж 2200 экз. Зак. 853.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь. Ліцэнзія ЛВ № 3. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Друкарня «Перамога». 222310, Маладзечна, вул. В. Таўлая, 11.